№ 52 Чацьвер, 18-га Сьнежня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.



# Няма чаго баяцца.

Нядаўна, пішучы аб беларускай настаўніцкай конфэрэнцыі, якая сёньня ўжо стане фактам, мы не памыляліся, калі выказвалі прыпушчэньне, што недзе ў некага ў жываце штосьці пераверне́цца, дэмагогія вакол сьвятое справы стаўляньня на грунт жыцьця і разьвіваньня нашае прасьветы пачуецца мацней, як калі-нібудзь перад тэтым.

І вось „Сялянская Праўда“ ня стыдаецца пасылаць нейкія ні то пагрозы, ні то „перасьцярогі“ беларускаму настаўніцтву.

„Сьцеражыцеся настаўнікі!“ — сычыць, як вужака, перадавік з „Сялянскае Праўды“. Бо на іншае не хапае ў яго розуму. Высьлізгаецца грунт з-пад ног. Момэнт паказвае, што галовы „некаранованых монархаў“ беларускага руху зьвісаюць. Чаму гэта ў іх разьвіваецца шалёная зайздрасьць таму простаму зьявішчу, што ўладамі зацьверджаны статут Беларускага Таварыства „Прасьвета“?

А таму, што яны тут ня пры чым. Ня пры чым тыя, хто кожную беларускую справу прывык разглядаць, як свой прыватны, вынятковы манаполь, дапушчаючы да яе толькі паслухмяных людзей і ня церпячы тых, хто й сам без апробаты патэнтованых „дзеячоў“ на нешта здольны.

Тымчасам рух беларускі перарос вузкалобае прадстаўленьне аб ім, як аб маніі нейкае цеснае групы інтэлігентаў. Рух гэты ў рознай форме пранік у народную гушчу і ўдарыў па нацыянальных струнах душы нашага селяніна і таго перадавога слою сялянства, якое цяпер замяніла плугам свой прафэсіянальны варстат працы.

Для беларускага нацыянальнага руху зацесна ўжо ў рэдакцыйнай каморцы „Сялянскае Праўды“ ці ў цесным кругу ня раз і ня два разы банкрутаваўшых палітыканаў.

Сорам бярэ, калі падумаеш, што нашыя бескантрольныя дасюль „верхаводы“ баяцца, як агню, ўсялякае самае найменшае дыфэрэнцыяцыі грамадзянства, стараючыся падаўнейшаму зьмясьціць усіх беларусаў на аднэй канапе.

Ці-ж ня соромна кожнаму, самаму пакрыўджанаму лёсам, беларусу чытаць словы сапраўды агіднае агітацыі проці чаго? Проці таго, каб стварыць магчымым вольнае разьвіцьцё прасьветы беларусаў у Польшчы на роднай беларускай мове!

Дык-жа апошняму дурню ясна, што родная школа народу патрэбна, што цёмнаму народу ніколі ня ўдасца дасягнуць свайго найбольшага ідэалу—нацыянальнага самаазначэньня.

Ясна гэта і для тых, хто гатоў пушчаць сьвядома і злосна атруту ў родную справу, калі кіраўніцтва гэтаю справаю находзіць ня з іх, а з іншых беларускіх рук. Ясна гэта для нашых палітычных няўдачнікаў, нацыянальна братоў нашых з „Сялянскае Праўды“, безнадзейна хворых душою.

Палажыўшы руку на сэрца, майце адвагу прызнацца, што беларускаму гаротнаму селяніну ўсё роўна, хто адчыніць, закладзе, паставіць на ногі яго родную школу! Яму важна самае істнаваньне роднае прасьветы, гэтае неабходнае духоўнае стравы людзей цяперашняга цывілізованага сьвету.

Гэтак званая „Цэнтральная“ Школьная Рада Таварыства Беларускае Школы нарэестравала 500 настаўнікаў, сабрала 100 прыгавараў сялянства аб патрэбе роднае школы!

Ці-ж гэта мае значыць, што ніводзін беларус, апрача цеснага кругу сяброў Школьнае Рады ня мае права рээстраваць настаўнікаў, зьбіраць школьныя прыгавары ў яшчэ большай меры?

Дый ня толькі рээстраваць настаўнікаў, а перадаўшы ў іхнія ўласныя рукі вялікую справу прасьветы, даць ім магчымасьць арганізованнага будаваньня нашага школьніцтва, згодна з накіпеўшымі народнымі жаданьнямі.

„Сялянская Праўда“ са скуры вон вылазіць, ня знаючы канцакраю сваёй дэмагогіі і паінсынуатарску палохае настаўніцтва тым, нібыто „кожнае, сьмелае і шчырае слова, сказанае прыежджымі з вёсак, адаб'ецца рэхам там, дзе не належыць—быццам—за яго найбольш энэргічныя дзеячы на полі беларускае асьветы лёгка могуць аказацца адарванымі ад роднае глебы“...

Адкуль гэткі клопат аб *„малых сих“*? І хто даў моральнае права выдумляць тое пра ініцыятараў настаўніцкага зьезду, чаго пры здаровых зусім мазгох і прысьніць немагчыма?

Ня з трусоў складаецца беларускае настаўніцтва, каб спалохацца выдуманых страхаў. Не пабаіцца яно тварам да твару стаць у барацьбе з тымі ці іншымі перашкодамі на яго над'звычайна цяжкім шляху прасьветнае слубы на роднай, задзірванелай, ніве.

Настаўніцтва зьбеднена безрабоцьцем, прыгнечана жыцьцём, але рабіць сваю работу яно не развучылася. Бо працавала яно, як магло, на прасьветнай ніве пад пятою маскоўскага царызму, працавала ў лешчатках нямецкай окупацыі, ў бурныя дні войнаў і вытаратаў і ў сваёй шляхотнай, хоць заўсёды няўдзячнай, працы загартавалася.

І калі пакажацца першая ясная дзяньніца новых варункаў працы пад гарантыяй законаў адроджанае Польскае Рэспублікі, дык яно дружна стане да знаёмае яму справы, адкінуўшы ўсякія пастрахі, калі-б навет гэтыя апошнія даляталі да яго вушэй з тых ці іншых родных беларускіх груповак.

Надыйшоў час для гаротнага, як увесь народ наш, настаўніцтва беларускага даказаць сваю грамадзянскую сьпеласьць і яно яе дакажа.

Яму даецца магчымасьць беспасрэдна ўзяць у свае рукі выканаўчыя яго прасьветніцкай ролі і яно гэта ўзяць зможа.

А зьехаўшым з глузду шаптуном і магам з „Сялянскае Праўды“ на іхнія пастрахі цьвёрда і многазначна адкажа:

„Не запалохаеце!“

Толькі гэткая вера ў сваё роднае настаўніцтва, якое вынясла тугу па сваёй вялікай працы ў працягу доўгага часу, вера ў яго сілы і здольнасьці, вера ў лепшую нашу будучыну кіравала Таварыствам „Прасьвета“, склікаючы настаўніцкі зьезд у Вільні.

І з момэнту зьезду настаўніцтва, галоўная роля ў справе роднага школьніцтва дастанецца яму ў межах легальнага роскviту гэтае справы.

Баяцца няма чаго!

# Палітычны агляд.

Пасьля рэпарацыйнага пытаньня, якое амаль што не да самага апошняга часу шмат цікавіла ўсю Эўропу, чарговым па вазе зьяўляецца пытаньне аб ваенных даўгох, цесна зьвязаных з рэпарацыйным пытаньнем. Дзеля гэтага, ня могуць заснавацца нармальныя зносіны між ваяваўшымі дзяржавамі і значыцца апынуўшыміся ў такіх ці сякіх даўгавых адносінах між сабою, пакуль ня будзе ўрэгулёвана даўгавое пытаньне. С. С. Р. Р., ня глядзячы на прызнаньне яго шмат-якімі вялікімі дзяржавамі, ня можа наладзіць сваіх гандлёвых і дыплёматычных адносін з гэтымі дзяржавамі, дзеля таго, што ня хоча плаціць ранейшых царскіх даўгоў і процантаў ад іх. А без урэгуляваньня пытаньня аб даўгох ня можа адтрымаць і новай пазыкі, без якой ня можа абыйсьціся.

З боку даўгавых узаемных адносін усе дзяржавы дзеляцца гэткім чынам: галоўным сусьветным крэдытарам зьяўляюцца Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі, якой капіталы праз увесь час вайны павялічыліся прыблізна ў пяць разоў адносна да капіталаў даваеннага часу. Далей другім сусьветным крэдытарам пасьля Амэрыкі зьяўляецца Англія, якая ў свой чарод ёсьць найбольшы даўжнік Амэрыкі. Гэта прымушае Англію больш за ўсё цікавіцца пытаньнем аб ваенных даўгох, дзеля таго, што яна адначасна зьяўляецца і другім па велічыні крэдытарам і першым даўжнікам.

Амэрыцы вінаваты эўропэйскія дзяржавы, ня лічачы С.С.Р.Р., адзінаццаць мільёнаў даляраў. Гэта выключна ваенны доўг дзяржаваў,

якія ваявалі, або даўгі зробленыя пасьля вайны. З гэтага Англія вінавата 4.746 міл. даляраў, Францыя—3.844 міл., Італія—1.932 міл., Бэльгія—437 міл., Польшча—153 міл., Чэхаславакія—106 міл., Сэрбія—59 міл., Румынія—41 міл., Аўстрыя—26 міл., Грэцыя—15 міл., Эстонія—16 міл., Фінляндыя—9 міл., Літва і Латвія па 5,7 міл. і г. д. Гэткім чынам, даўгі новых дзяржаваў Амэрыцы даходзяць да 307 мільёнаў даляраў. Сума адных толькі заляжаўшыхся процантаў даходзіць да паўтора мільярда даляраў.

Апрача таго, амаль што ня ўсе з успамянутых дзяржаваў, апроч Амэрыкі, вінаваты грошы Англіі. Ваенныя даўгі эўропэйскіх дзяржаваў Англіі складаюць больш паловы даўгоў самае Англіі для Амэрыкі. І іх найбольшы даўжнік Францыя, якая вінавата Англіі 622.895.458 фунтаў штэрлінгаў, што складае больш за тры мільярды даляраў. З гэтай сумы 514.482.000 фунтаў павінна быць выплачана ў фунтах, а рэшта ў далярах. Адсюль зусім зразумела, дзеля чаго пытаньнем аб г. зв. «міжсаюзных даўгох» больш за ўсіх цікавіцца Францыя, якая вінавата Амэрыцы і Англіі больш як 7 мільярдаў даляраў.

Ня гледзячы на гэткую вялізную суму, Францыя да самага апошняга часу не плаціла ані Амэрыцы, ані Англіі. З важнейшых даўжнікоў Амэрыкі толькі адна Англія выплачвае акуратна свае даўгі, а таксама й проценты ад іх. Гэта зусім зразумела, дзеля таго, што яна хоча апраўдаць сябе перад сваімі даўжнікамі, ад якіх таксама дамагаецца выплаты даўгоў.

Зараз-жа пасьля вайны Амэрыка прыпомніла сваім эўропэйскім даўжнікам аб іхніх даўгавых абавязках. Пад гэтым націскам Англія зрабіла тое самае адносна да сваіх эўропэйскіх даўжнікоў. Першае слова павінна была сказаць Францыя. Але Пуанкарэ ад імя апошняй сказаў, што Францыя ня будзе плаціць сваіх часовых даўгоў датуль, пакуль Нямеччына не пачне акуратна плаціць рэпарацыйных даўгоў. Гэткім чынам, пытаньне аб даўгох саюзьнікаў было пастаўлена ў залежнасьці ад рэпарацыйнага пытаньня. Пры гэтым было паднята пытаньне аб ануляваньні ўсіх даўгоў, дзеля таго, што хутка выясьнілася, што Нямеччына ніяк ня можа заплаціць той сумы, якая была наложана на яе вэрсальскім трактатам і якой саюзьнікі думалі пакрыць свае ўласныя ваенныя даўгі. Паводле вэрсальскага трактату, Нямеччына павінна была выплаціць саюзьнікам у працягу 50 гадоў 370 мільярдаў залатых марак за зробленыя вайной матар'яльныя шкоды. Гэта ёсьць на будучыну запалоханьне для тых, хто захоча пачаць вайну, як Нямеччына, якая і павінна плаціць за разьбітыя гаршчкі. Але немцы шляхам розных хітрасьцяў дабіліся таго, што гэты доўг быў зьменшаны да 50 мільярдаў залатых марак. Але й гэты доўг яны адмовіліся плаціць, апраўдываючыся сваей неплатаздольнасьцяй. Дзякуючы гэтай адмове, быў окупованы Рурскі басэйн і выйшаў адкрыты конфлікт між Францыяй і Бэльгіяй з аднаго боку, а Нямеччынай з другога.

Вось дзеля гэтага Францыі было выгадней зусім ануляваць ваенныя даўгі. На гэтым яна толькі выйграла-б. Англія, з свайго боку, заявіла, што яна нічога процi гэтай прапазыцыі ня мае, хаця яна зьяўляецца адзіным галоўным эўропэйскім крэдытарам, калі згодзіцца на гэта Амэрыка. Сваю прапазыцыю Англія выказала ў ноце Бальфура да Амэрыкі і саюзьнікаў тры гады назад. Гэтая нота, як нядаўна заявіў ангельскі міністар фінансаў Чэрчыль у ніжняй палаце, ёсьць асновай палітыкі цяперашняга ўраду ў справе ваенных даўгоў. Зьмест ноты Бальфура гэткі, што Англія павінна дараваць такую частку даўгоў сваім даўжнікам, якую ёй даруе Амэрыка. І наадварот, Англія ня будзе дамагацца ад сваіх даўжнікоў больш таго, чаго ад яе будзе дамагацца Амэрыка. Але дзеля таго, што Амэрыка рашуча адмовілася ануляваць ваенныя даўгі, дык значыцца й Англія ня можа адмовіцца ад сваіх даўгавых дамаганьняў ад Эўропы. Адзінае, што Амэрыка згадзілася зрабіць, — гэта памагчы ўзнавіць эканамічнае жыцьцё ў Эўропе паводле пляну Доўса, каб гэткім чынам падняць платаздольнасьць эўропэйскіх дзяржаваў. На гэтай аснове прыватныя амэрыканскія капіталістыя далі крэдыт Нямеччыне, каб урэгуляваць рэпарацыйнае пытаньне, і зрабілі двойчы крэдыт Францыі па 100 міл. дал., каб падтрымаць курс франка, дзеля таго, што ад гэтага пацярпелі-б больш за ўсіх яны самыя, як пацярпелі ад абясцэнкі нямецкае маркі і расейскага рубля. А што датычыцца ваенных даўгоў, дык прэзыдэнт Кулідж сказаў у сваёй апошняй прамове, што адзінае, аб чым можа быць гутарка, гэта—аб зьмене варункаў выплаты даўгоў. Гэтага погляду трымаецца й Англія. Гэткім чынам хоч-ня-хоч эўропэйскім даўжнікам прыдзецца плаціць свае даўгі.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

ПАТ перадае з Варшавы за 16-XII, што адміністрацыйная камісія Сойму абгаварала палажэньне ўва ўсходніх ваяводзтвах. Сказалі прамовы паслы: Васынчук, Кернік, Вендзягольскі і Кнотэ, пры чым падалі рад рэзалюцыяў. Пасол Вендзягольскі выступіў з рэзалюцыяй, заклікаючай Урад да апрацаваньня проекту аутаномнага статуту для Віленшчыны.

16-XII соймавая бюд'жэтная камісія пад маршалкоўствам пасла Грушкі, пасьля доўгіх спрэчак, прыняла 17 галасамі проці 9 прапазыцыю пасла Ярошынскага аб адабрэньні бюд'жэтнага прэлімінара на 1925 г. не па чэцьверцях году, а памесячна, г. зн. спачатку на срок ад 1 да 31 студня 1925 году. Калі камісія пачала разглядаць бюд'жэт Сойму й Сэнату, на паседжаньне прыбыў прэм'ер-міністар п. Грабскі і, з прычыны вынесенае камісіяй пастановы, паставіў пытаньне аб даверыі, пры чым дадаў, што мог-бы прыняць адабрэньне бюд'жэту на два месяцы будуч. году; за гэты час мог-бы быць адобраны ўвесь бюд'жэт. Пасоль Зьдзехоускі запрапанаваў пераглядзець прынятую пастанову, проці чаго востра выступіў пасол Ярошынскі. Справа адложана да чарговага паседжаньня.

16 гэтага сьнежня прем'ер-міністар п. Грабскі меў конфэрэнцыю аб зямельнай рэформе з пасламі Кернікам, Осецкім і Паточкам.

Міністар унутраных справаў склікае на 5 студня 1925 г. агульны зьезд ваяводаў Польскае Рэспублікі, на якім будуць абгаварвацца агульна-адміністрацыйныя справы.

Вярнуўшыся ў Варшаву міністар пан Тугут зрабіў 16-XII ў Радзе Міністраў справаздачу аб сваім пабыце ў Вільні.

У панядзелак пачаў урадаваць п. Роман, старшыня камісіі, ўтворанай пару дзён назад, дзеля кодыфікацыі і ўрэгуляваньня правоў і правілаў, абавязковых у ўсходніх ваяводзтвах. У склад гэтае камісіі ўвайдуць яшчэ 2 сябры.

У соймавых кругох хадзіла чутка аб тым, што Міністрам Прасьветы і Рэлігіяў мае быць назначаны быўшы старшыня Рады Міністраў праф. Ант. Панікоўскі.

## За граніцай.

**Бэрлінская** газэта „Vos. Ztg." паведамляе, што ў парлямэнцкіх кругох чакаюць скліканьня рэйхстагу на 5 студня 1925 году.

У **Англіі** парлямэнт адкінуў 366 галасамі проці 132 прапазыцыю рабочае партыі аб выражэньні шкадаваньня з прычыны эгіпэцкае і расейскае палітыкі ўраду.

**Парыская** газэта „Matin" перадае, што прэм'ер Эрыё меў нараду з міністрам унутраных справаў па пытаньню аб барацьбе з камуністычнаю прапагандаю. Прыняты новыя меры, каб палажыць канец выступленьням камуністых.

Як вядома **францускі** прэм'ер Эрыё захварэў гішпанкаю. „Echo de Paris" піша, што ў парлямэнце хадзіла чутка, нібыто зацяжка гэтае хваробы пацянула-б за сабою адстаўку кабінэту, але гэтага ня здарыцца да Новага Году.

На будынку савецкага пасольства ў **Парыжы** офіцыяльна вывешаны чырвоны савецкі сьцяг. Пры гэтым здарэньні Красін сказаў прамову, пасьля чаго прасьпявалі „Інтэрнацыянал".

---

**К. С.**

# Янка Канцавы.

### Вясковая драма ў 5 дзеях.

*(Глядзі № 51 „Грам. Голасу").*

**Міхасіха.** Чакайце, дзеткі! Пільна вучэцеся, дык шмат посьле даведаецеся з вучоных кніг аб гэтай кветцы. Ці відзелі вы, дзеткі, квет папараці?

**Дзеці.** Не, не! (*Некаторыя за* **Язэпкам** *сядаюць на зямлю*).

**Міхасіха.** Ну, дык ведайце, што папараць заквітае толькі апоўначы на сьвята Купальле, ў найцямнейшым лесе, найдалей ад людзкога вока. І хто гэты кветак знайдзе, той шчасьце знайдзе. Вось гэнае дзяўчо ведала, што шчасьце на сьвеце рэдка, а больш гора і крыўды—і дзеля таго пасылала Стафуся па краску, каб прад нящчасьцем забясьпечыць сябе. А ведайце, дзеткі, што гэты квет папараці на Купальле бароняць розныя страхі і духі. Дык трэба было вялікай адвагі Стафуся, каб пайсьці ў лес, уночы, шукаць гэнай краскі. (*Ажыўляецца*). Ішоў ён, ішоў, аж так сьцямнела, што хоць вока выкалі. Узьбіваўся ён на кусты, калечыў сабе твар, блутаўся ў нейкай траве, дзёр вопратку на хмызьнякох — і ўсё йшоў.

Лес зашумеў, загудзеў, як-бы вялікія віхры ў ім загулялі і загукалі. Кусты зачалі хіляцца, дрэвы з трэскам ламацца, казаў-бы мелі спасьці на галаву Стафусю. Яму валасы на галаве сталі і ледзь ён пеpажагнаўся. Але прыпомніў казкі старых людзей, што калі хто, шукаючы кветкі, спужаецца моцна, то не знайдзе яе ён. Атросься тады ад страху Стафусь і пашоў далей... І стала так ціха, як у мядзьведжым вушку. Праз галіны дрэў заблішчэла нешта яснае. Дагадаўся Стафусь, што гэта пэўна кветка купальская. Кінуў ён вокам на зямлю, аж тут віюцца страшэнныя гадзіны... Ня страціў аднак адвагі: ня прысеў, ня прыстаў: ішоў сьмела наўперад. Бачыць ён: ўжо сьвятло штораз бліжэй і бліжэй; а страхаў ўсё штораз болей і болей. Жабы на дзьвёх нагах, яшчыркі з рагамі, калодкі дрэва з бычачай галавой, куры на аднэй ножцы, пеўні з дзюбамі, як труба. Усё гэта круціцца, верціцца і крычыць голасам страшным, паказуючы на Стафуся: «Злавіўся, злавіўся!» Стафусю дух забіла... Затуліў вушы, прыжмурыў вочы і йшоў уперад. І пачуў ён, што ўжо блізка кветка. Вот-вот ужо яна блішчыць і гарыць цуднымі агнямі. Ужо Стафусь нахіліўся, каб яе сарваць... Калі раптам, кінуўшы вокам на старану, ўбачыў ён крывавую галаву свае Мальвіны. Тут Стафусь ня вытрымаў. Як сноп паваліўся ён і самлеў... Няведама як доўга ён ляжаў. Толькі як падняўся, відзіць, што ўжо дзень, а ён у лесе адзін. Прыпомніў ён тутака ўсё і, пры мысьлі аб Мальвіне, кроў застыла ў ягоных жылах. Пусьціўся ён ляцець да хаты і, прыбегшы, знашоў Мальвіну... жывую, здаровую, чакаючы купальскай кветкі. Тут ён і расказаў ёй усё ад пачатку, чаму кветкі ня прынёс і чаго спужаўся. Калі Мальвіна даведалася, ад якога страху Стафусь ня вытрываў, пазнала, як ён шчыра яе любіў, ну і зара пайшла за яго замуж, думаючы, што калі з ім ня будзе шчасьця, то пэўна яго зусім няма на сьвеце. На іх вясельлі і я была, віна й мёд піла: па барадзе сьцякло, ў вуснах ня было.

**Дзеці.** Дзякуй бабулі, дзякуй! От-жа харошая байка! Ай-я-яй! Яшчэ адну, яшчэ!

**Міхасіха.** Чакайце, чакайце! Дайце-ж адпачыць! Прыпомню...

*(Чуваць скорыя шагі. Убягае* **Франук.** *Бяз шапкі, з перавязанай галавой. Зьменены. Усе ў хаце падымаюцца з месцаў сваіх ад дзіва і страху).*

### Найбольшая марская глыбіня.

За 50 марскіх міляў ад японскага ўзьбярэжжа, японскім ваенным караблём нядаўна была устаноўлена самая найбольшая марская глыбіня. З карабля быў спушчаны лёт да глыбіні 9.800 мэтраў, але цьвёрды грунт ня быў дасягнены. Дасюль найглыбейшым месцам Ціхага акіяну лічылася ваколіца Мінданао, дзе ў 1912 годзе нямецкі карабель устанавіў глыбіню ў 9.635 мэтраў.

### Сколькі ў Паўночнай Амэрыцы індыйцаў?

Паводлуг афіцыяльнае статыстыкі індыйскага бюра ў Злучаных Штатах, лік індыйцаў у цяперашні час на тэрыторыі Злуч. Штатаў даходзіць да 346.962 або на 16.283 чалавекі болей, як 11 гадоў назад. Бюро далей дадае, што на аснове самых акуратных аблічэньняў лік індыйцаў у Амэрыцы, з часу адкрыцьця яе Колюмбам на цяперашняй тэрыторыі Злучаных Штатаў, ніколі не перавышаў іх цяперашняе цыфры, асабліва калі ўзяць пад увагу, што 60.000 выйшлі за складу сваіх пляменаў і зьмяшаліся з рэштай насяленьня. Гэтае паведамленьне выклікала ў Амэрыцы вялікую сэнсацыю, таму што дасюль прынята было думаць, быццам лік індыйцаў, з прычыны жорсткіх спосабаў белае каленізацыі ў Амэрыцы, ў цяперашні час значна меншы, чымся тады, калі складалі адзінае насяленьне цяперашніх Штатаў.

Выходзіць, што жывы народ ня вельмі лёгка зводзіцца!

### Археолёгічныя знаходкі ў Крыме.

Яшчэ ў 1848 годзе З. Аркас апублікаваў працу „Описаніе Ираклійскага полуострова и древности его". Ён аднатаваў некаторыя з памятнікаў, якія ён назваў вежамі, даўшы кароткае іхняе апісаньне і пляны. Пасьля Аркаса паасобныя вучоныя не маглі не зьвярнуць увагі на параскіданыя ў вялікім ліку астаткі сьценаў цыклёпічнае і квадровае кладкі. Выказваліся розныя прыпушчэньні, зьяўляліся ўсялякія дагадкі. Стваралася свайго роду „загадка Гэраклейскага паўвострава".

Большасьць вучоных сходзілася на тым, што гэта астаткі збудаваньняў тыпу вежаў, але хронолёгія была вельмі розная. Калі адны гаварылі аб мікэнскіх часох (1200—1000 да нашае эры), дык іншыя гаварылі аб эпосе перасяленьня народаў, а трэція самыя радыкальныя, аб французкай будове Сэвастопальскае абароны. Памятнікі вымагалі разгадкі.

Навукова - археолёгічная экспэдыцыя, высланая ў верасьні сёлетняга году навуковаю асоцыяцыяю ўсходазнаўства пад кіраўніцтвам праф. І. Бароздзіна, паставіла сабе задачу высьвятліць шляхам глыбокіх археолёгічных разьведак тып збудаваньняў і устанавіць іхнюю хронолёгію. Экспэдыцыя ў сярэдзіне сьценаў знайшла дзьве цыстэрны, а за сьценамі гаспадарчыя збудаваньні. Адтрымлівалася пэўны комплекс ваенна-усадзебнага тыпу. Дзеля праверкі хронолёгічных датаў была зроблена рэкагнасцыроўка да астаткаў вежы, зложанае з акуратна абчэсаных квадратаў. Разьведкаю высьветлены над'звычайна арыгінальны плян вежы, дзе ў квадрат сьценаў аказаўся ўпісаным круг збудаваньня, расчышчаны ўваход з паўднёвага боку.

Нарэшце, ў самой Александрыядзе ўдалося знайсьці нэкролёг рымскага часу (I сталецьце), адчынены рад дамавінаў з якнайлепей захаваўшымся інвэнтаром (судзіны, манэты). Матар'ялы, даныя раскопкамі паступова разьвейваюць туман гісторыі, вісеўшы над Гэраклейскімі памятнікамі. Высьвяецца хронолёгія, азначаюцца пляны і назначэньні збудаваньнаў. Раскопкамі ўводзіцца новыя момэнты ў эканамічную і бытавую гісторыю Крыма, ў эпоху найбольшага зблізэньня культураў Заходу і Усходу і ў эпоху напорыстага руху рымскага імпэрыялізму, прабаваўшага стварыць у Крыме свой пляцдарм. „Руль".

## Навіны ў тры радкі.

— У Адэсе расстрэлены за шпіёнства на карысьць Румыніі Кашнёў, Продан і Міна Ісаевіч.

— У Петраградзкую Публічную Бібліятэку паступілі каштоўныя кнігі XV і XVII сталецьця, ў тым ліку першыя выданьні твораў Копэрніка.

— Нікалаеўская гарадзкая рада падняла пытаньне, каб назваць Нікалаеўск Вэрналенінскам.

— У Маскве пастаўлены яшчэ тры памятнікі Леніну.

— У Тыфлісе пры будове гідрастанцыі знойдзены цікавыя магільнікі жалезнага веку.

— Прэзыдыум украінскага ЦИК'а пазволіў грамадзянам, якія маюць 18 гадоў веку, зьмяняць імя і прозьвішча.

— Царква пры петраградзкіх акадэмічных тэатрах узята пад музэй.

— 12-га сьнежня ў Нямеччыне і Аўстрыі адчувалася землятрасеньне.

— Амэрыканскі банк Моргана выслаў у Нямеччыну 3 мільёны даляраў золатам.

— 12 сьнежня ў Бэрліне раптоўна памёр вядомы соцыялісты Гэльфанд (псэўдонім „Парвус").

— Фінансавая камісія Варшаўскага Магістрату аблічыла, што на кожнага жыхара места ў 1924 г. выпадае па 30 злот. гарадзкога падатку.

— Японскі параход „Квантомару" затануў ад буры ў ваколіцах Куруга. Са 150 чал. экіпажу выратаваліся: капітан, 5 афіцароў і 50 матросаў.

— Аканчальнае ўвядзеньне мэтрычных мераў у **Савецкай Беларусі** мае адбыцца да 1-га студня 1925 году.

— Доктар Отто Шмідт з Мюнхэну выкрыў нязнаны дасюль мікроб хваробы рака.

## У.С.С.Р.

### Прызнаюцца.

Саратаўскі карэспондэнт „Правды" (№ 241) піша: „Улетку ўсе крычалі „далой засуху!" Абвяшчаем бязьлітасную вайну! Болей цярпець нельга!.. Гэта быў парыў, які хутка пагас. Азімыя былі пасеяны ў засушлівым краі саўсім таксама, як яны сеяліся ў часы цара Гароха. Навет горай. У рэзультаце: ў некаторых раёнах Саратаўскай губ. часьць азімых не абышла, часьць абышла, але засохла; рэшта йдзе да пагібелі. А большая часьць загінула ад азімага чарвяка. Гэты шкоднік точыць і да гэтага часу. Есьць месцы, дзе жыта перасейвалася тройчы... 24-ты год наагул нічога не навучыў нас. Мы топчамся ўсё на адным месцы".

### Сяляне пра камуністых.

„Правда" друкуе пісьмо, адтрыманае з сяла Клянчына, Сьвіяжскага кантону Татарскае Рэспублікі. Корэспондэнт „Правды" піша пра камуністычную ячэйку: „Насяленьне ведае, што ячэйка ёсьць, а аб тым, што яна робіць, ведае вось што: ячэйка п'ець; прыяжджаюць камуністыя ў сяло, нап'юцца ды ад'едуць; чакаюць перавыбараў валаснога іспалкому, каб **уцёрці** сваіх сяброў, а калі камуністых не выбіраюць, дык заганяюць усе ячэйкі на валасны зьезд і адтрымліваюць большасьць... А сяляне самі камуністых не выбіраюць... Сяляне кажуць: партыя дык добрая, а вось камуністыя нічога ня варты... Мясцовыя камуністыя популярны толькі з нягатыўнага боку. Адзін селянін кажа: пачынаючы з 19-га году я ня бачыў ніводнага прыяжджаўшага па службовых справах камуністага, які-б не напіваўся самагонам. Другі селянін кажа: калі што патрэбна ад іспалкому, дык мы варым самагон, напоім—усё зробяць... Камуністыя выбралі іспалком, хай яны яго і падтрымліваюць. Усё роўна з тым, як мы думаем, ня лічацца, а мы прывыклі выяжджаць на самагоне".

Іншыя прызнаньні аб сялянскіх настроях ня менш цікавыя: „Адносіны да сельска-гаспадарчага падатку варожыя... Аб школе сяляне кажуць гэтак: даём грошы на школу, а школы не абстаўлены, няма дроў, няма школьных падмогаў... Адносіны да рабочых з боку сялян варожыя. Сяляне кажуць, што рабочыя добра зарабляюць, вучаць сваіх дзяцей, ходзяць у тэатр, усё за рахунак мужыка".

### Палажэньне пасеваў у Радавай Беларусі.

Паводлуг даных Цэнтральнага Статыстычнага Бюра Радавае Беларусі, палажэньнё азімых пасеваў у Беларусі зьяўляецца задавальняючым. Абшар, засеяны жытам раўняецца 70-м процантам прастору, засяванага перад вайною.

### Эпідэмія трасцы.

Беларускі Камісарыят Аховы Здароўя за апошнія шэсьць месяцаў сёлетняга году занатаваў у Радавай Беларусі 3.850 выпадкаў хварэньня трасцаю.

### Назначэньне Адамовіча.

Старшыня рады народных камісароў Беларускае Соцыялістычнае Радавае Рэспублікі Адамовіч назначаны заўсёдным сябром **Реввоенсовета** (Рэвалюцыйнае Ваеннае Рады) С.С.Р.Р.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Рэфэрат праф. Бодуэн-дэ-Куртэнэ.** 21-га гэтага сьнежня ў нядзелю вядомы вучоны філёлёг праф. Бодуэн-дэ-Куртэнэ мае прачытаць у Вільні рэфэрат па пытаньню аб нацыянальнасьцях.

= **Банкет у чэсьць Міністра п. С. Тугута.** У мінулую нядзелю (14.XII) у салі „Жоржа", прадстаўнікі мясцовых уладаў, грамадзянства і прэсы былі на банкеце ў чэсьць Міністра Ст. Тугута. Пасьля прывітаньня Дэлегата Ураду ў Вільні п. Рачкевіча, п. Міністар сказаў вялікую прамову аб эканамічным і палітычным палажэньні Рэспублікі. Ад беларусаў на банкеце былі прадстаўнікі Час. Бел. Рады, Рэдакцыі „Грамадзкага Голасу" і з беларускіх паслоў п. Ярэміч.

= **Зьезд беларусаў - настаўнікаў.** Сягоньня а 4 гадз. ўдзень у салі Купецкага Клюбу (па вуліцы Міцкевіча 33-а) пачынаецца зьезд настаўнікаў - беларусаў, скліканых Т-вам „Прасьвета".

= **Работніцкі рух.** У аўторак у інспэктара працы адбыліся перагаворы прадстаўнікоў прафэсіянальнага саюзу рабочых-мельнікаў і прадпрыемцаў. Пасьля доўгіх спрэчак стораны дайшлі да паразуменьня: рабочыя адтрымалі падвышэньне платы на 10 процантаў. Дамагаліся яны падвышкі на 25%.

= **Падатак за жывёлу.** Устаноўлены гэткія нормы падатку на 1925 г., 1) за бугая й вала 6 зл., 2) карову і цяляты, старэй за 2 гады—3 злот., 3) цяляты ад ½ году да 2-х гадоў—3 зл., 4) цяляты ½ годкі—20 грош., 5) авечкі й козы—20 грош., 6) ягняты і казеняты—10 грош., 7) сьвіньні—3 злот. Быдла з рагамі і двума зубамі лічыцца старэйшым за 2 гады; калі рогі яшчэ не паказаліся, дык лічыцца малодшым за ½ года.

= **Распараджэньне аб сьвятах.** Міністар Унутраных Справаў выдаў распараджэньне, што з прычыны калядных сьвятаў праца ў установах мае скончыцца а паўдні ў сераду, а пачнецца пасьля сьвятаў у суботу раніцай.

= **Школьныя канікулы.** „Słowo" піша, што з прычыны прыпадаючых у 1925 годзе сьвяточных дзён 4 і 6-га студня, калядныя канікулы выняткова ў 1924 і 1925 г. г. будуць цягнуцца ад 22 сьнежня да 7 студня. Спыняцца лекцыі ў школах 22-га сьнежня пасьля заняткаў і пачнецца навука йзноў 8-га студня раніцай.

= **Барацьба з ліхваю.** Рэфэрат барацьбы з ліхваю і спэкуляцыяю ў пятніцу на мінулым тыдні зрабіў 11 пратаколаў за браньне цэнаў, назгодных з таксаю, адсутнасьць таксы ў крамах і г. д.

## УСЯЧЫНА.

### Амэрыканская прастата.

Назначаны Радаю Лігі Народаў гэнэральным камісарам дзеля правядзеньня пляну фінансавага аздараўленьню Вэнгрыі грамадзянін Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Сьміт адмовіўся ад вызначанае яму пэнсіі ў разьмеры 5.000 даляраў і заявіў, што яму даволі 500. Замест адвездзенага яму памешканьня ў раскошнай гасьцініцы, ён пастанавіў задаволіцца простым пакоем на 5-м паверсе.

### Мастак.

У Бэрліне засудзілі на тры гады вастрогу расейскага маляра-мастака Мясаедава за выраб фальшывых грошай. Засуджаны адмовіўся ад права апэляцыі, але прасіў, каб яму дазволілі прыяздобіць вастрожны касьцёл малюнкамі на сьценах.

Шчыра любіць чалавек сваё мастацтва!



Рэдактар - Выдавец **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.